Op... ...owa uiszczona ryczałtem. ЦАНА НУМАРУ 20 ГР.

№ 11 Нядзеля 10 Чэрвеня 1928 г. м. Вільня. Год I

# ГРАМАДЗЯНІН

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НЕЗАЛЕЖНАЙ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ДУМКІ

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ

Падпісная цана на 1 месяц 50 грашэй, на 2 месяцы 1 злоты. Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Zawalna 6, m. 5,

АБВЕСТКІ ПА ЎМОВЕ

## Бура ў шклянцы вады.

З першага нумару мы рашуча выступілі проці непатрэбнае і шкадлівае лаянкі ў прэсе, атручваючай палітычную атмасфэру. I мусім сьцьвердзіць, што і само грамадзянства адчувае патрэбу аздараўленьня ўзаемных адносінаў. Наша беларуская прэса ўсіх кірункаў прыняла спакойны тон. Лепшым доказам гэтага было агульнае абурэньне проці нетактоўных і неэтычных выступленьняў пасла Янкі Станкевіча, зрабіўшага з свайго органу „Народ“ запраўднага канкурэнта быўшаму органу Паўлюкевіча „Беларускаму Слову“.

Але нажаль час ад часу і мы прымушаны адхіляцца ў бок ад накрэсьлянага кірунку і спакойнае грамадзкае працы, каб даць адпор на закіды і напады з боку кучкі палітычных банкрутаў, выкінутых за борт беларускага жыцьця.

Справа ў тым, што з уходам са сцэны палітычнага жыцьця А. Паўлюкевіча пазасталася ў рожных арганізацыях некалькі яго стаўлянікаў, якія хацелі працягнуць руку помачы свайму быўшаму патрону цаною гэтых арганізацыяў. I калі пазасталая група п. Т. Вернікоўскага адказала на гэтыя спробы з боку паўлюкевічаўскай кумпаніі зноў уваскрасіць „паўлюкевічаўшчыну“ рашучымі мерамі аж да пазбаўленьня іх грашовага падтрыманьня і субсыдыяў, дык распачалася шалёная атака гэтых адзінак проці п. Т. Вернікоўскага, спіхнуўшага са сцэны Паўлюкевіча.

Да гэтае кучкі пазбаўляных усякае вартасьці бяз іх павадыра жывых трупаў далучылася яшчэ некалькі вольнаблутаючыхся няпрызнаных беларускіх „дзеячоў“, якіх ня прыймае ніводная з істнуючых беларускіх палітычных партыяў ці культурна - асьветных арганізацыяў. Гэтыя асобы заўсёды гатовы падтрымаць усялякі пратэст ці бунт проці таго, што пачынае тварыцца паміма іх і бяз іх удзелу. Яны заўсёды гатовы рабіць буру ў шклянцы вады.

Дык німа нічога дзіўнага, што рэчовы і спакойны тон „Грамадзяніна“ і „Беларускага Раднага“, значна прычыніўшыхся да агульнага аздараўленьня беларускіх узаемаадносінаў, ня прыйшоўся па смаку гэтай кучцы выкалеіўшыхся палітычных калек, паверх якіх прайшло беларускае жыцьцё, зусім не закрануўшы нават іх.

Дык шкада толькі траты часу і мейсца на палеміку з гэтымі трутнямі, выкінутымі з беларускага вульля, на якую яны выклікаюць усялякімі спасабамі, каб вытварыць навакол сябе шум і як колячы выпаўзьці на паверх палітычнага жыцьця

Але дарэмныя спробы.

# Няма і няма спакою.

Хаця на зацемку, зьмешчаную няма ведзіма кім у „Dzienniku Wileńskim“, мы ўжо далі адказ у гэтай газэце, аднак жа даём адказ і тутака, і то дзеля таго, каб ізноў нашыя збанкрутаваныя, сабраўшыся за плячыма „галоўнага“, не пачалі-б „завешваць“ нас у чыннасьці і „аддаваць“ пад суд.

Дык вось наш адказ:

1) Ня праўда, што амаль усе арганізацыі ёсьць незадаволеныя дзейнасьцю п. Т. Вернікоўскага, а праўда, што праводжаная ім цяпер рэарганізацыя і „чыстка“ б. паўлюкевічаўцаў выклікае агульнае задаваленьне, доказам чаго ёсьць шмат лісьмаў, атрыманых з правінцыі.

2) Ня праўда, што п. Вернікоўскі ў дню 26 траўня застаўся выключаным з Т-ва „Прасьветы“, бо на агульнай зборцы сяброў „Прасьветы“ Віленскага Ваяводзтва ў дню 24 траўня, а затым на паседжаньні Прэзыдыума Цэнтр. Рады „Прасьветы“ ў складзе Віцэ-Старшыні, Скарбніка і Сэкрэтара ў дню 26 траўня, вынесяны пратэсты і ганьба проці дзейнасьці А. Якімовіча і М. Станкевічанкі, якія, сабраўшыся ў двох, „выключылі“ п. Т. Вернікоўскага.

3) Ня праўда, што ў дню 28 траўня 14 сяброў „хаткі“ сабраліся і вынясьлі пратэст проці сучаснага ураду „Хаткі“, а праўда, што б. сябра хаткі п. Друцкі-Падбярэскі толькі 3 чэрвеня сабіраў подпісы і да гэтага часу не сабраў. Просім выявіць гэтыя прозьвішчы, бо інакш будзе выглядаць правакацыяй тых, якія на імёнах іншых клапоцяцца аб асабістых інтарэсах.

4) Нарэшце праўда, што папяровы старшыня камітэту па справам самаўрадаў і зіц рэдактар „Белар. Раднага“ Я. Яраш, калі яму п. Вернікоўскі адмовіў у пасадзе пры „лёто“, — у сваей асобе, асабіста ад сябе агласіў ліст у газэце „Народ“, што зрывае стасункі з групай п. Вернікоўскага.

5) Што-ж тычыцца Т-ва „Бел. Хатка“, дык, як мы пісамі, яно сапраўды, пасьля паўлюкевічаўскага гаспадараваньня, напапярэдадні ліквідацыі і сучасны урад згодна са Статутам Т-ва чыніць стараньні аб агульным сходзе.

Дзеля гэтага просім усіх заплечных кіраўнікоў і усіх пакрыўджаных праз п. Вернікоўскага, а таксама і іншых, хто сымпатызуе і дапамагае збанкрутаваным у іхніх асабістых разрахунках з п. Т. Вернікоўскім, — пайці шляхам грамадзкім, г. ё. чакаць агульнага сходу, або па просту зьвярнуцца да Суда, а ня пужаць гэтым толькі праз газэты, а нам даць нарэшце спакой і магчымасьць аздаравіць тую атмасфэру, якая панавала ў паўлюкевічаўскіх арганізацыях.

Нашых чытачоў просім нас выбачыць, што, адносячыся з агідай да рожных асабістых палемікаў і спрэчак, мы змушаныя хоцькі ня хоцькі даваць адпор нашым супраціўнікам, каб мець магчымасьць абараніцца і спакойна працаваць.

# „Петрушка“.

Ёсьць прыказка: „калі Бог захоча каго ўкараць, дык адніме розум“.

Гэткае няшчасьце спаткала і гэтак званага Старшыню Камітэту па Справам Самаўрадаў Янку Яроша. І трэба-ж было яму на сьмех людзям выступіць па прыкладу М. Станкевічанкі і А. Якімовіча ў „спадаровым“ „Народзе“ (№ 11) з адкрытым лістом, у якім ён, як "Старшыня Беларускага Камітэту па Справам Самаўрадаў і рэдактар „Беларускага Раднага“, ня жадаючы нясьці адказнасьці за дзейнасьць п. Вернікоўскага, заяўляе, што ўсялякую лучнасьць з п. Т. Вернікоўскім і ягонай групай, якая нічога супольнага з беларускім рухам ня мае, зрывае. А камітэт пераносіць у новае памешканьне Garbarska 5, m. 2!“

Просты, сымпатычны хлапец з вёскі Янка Ярош ня можа сабе нават уцяміць, якога ён тут разыгрвае „Петрушку“ ў руках свайго патрона.

Што Янка не разумее гэтага, яму можна выбачыць. Але ня можна выбачыць Паўлюкевічу, што ён выставіў на людзкі сьмех свайго вернага служаку. Калі-б не Паўлюкевіч, любіўшы ставіць на чале сваіх арганізацыяў „прэзэсаў і віцэ-прэзэсаў“ анальфабэтаў, каб ляпей кіраваць гэтымі „Петрушкамі“, дык Янка і да гэтае пары спакойна працаваў-бы ў сваей Межнай Слабадзе і цяпер яму ня прышлося-бы чырванець. А то ён па сваей наіўнасьці і ўзапраўды ўверыў у тое, што ён мае нейкую вагу, як „Старшыня“ Камітэту па Справам Самаўрадаў і „рэдактар“ часопісі „Беларускага Раднага“.

Пане „Старшыня“ і рэдактар! Хоць-бы Вы не сьмяшылі сваіх знаёмых! Ну, які-ж з Вас, выбачайце „прэзэс“ Камітэту па Справам Самаўрадаў? Ці Вы ведаеце, колькі ў гэтым камітэце сябраў? Ці падпісалі Вы хоць адну паперку па гэтых справах? Ці бачылі гэтыя справы? Ці наагул дапушчалі Вас на‘т блізка да гэтае справы!?

І Вам ня сорамна было пісаць, што Вы „пераносіце“ камітэт у новае памешканьне?

І ня цяжка Вам было перанасіць гэты камітэт? Можа Вы абмыліліся, — хацелі сказаць, што пераносіце паважаную асобу „старшыні“ камітэту, а не камітэт?

Ой, Яначка!..

Затым Вы яшчэ ўспомнілі аб рэдактарстве. Вось гэтым Ваш патрон зусім Вас угробіў. Ну, слухайце, які-ж Вы рэдактар! Ці Вы бы-

лі хоць раз у рэдакцыі „Беларускага Раднага“ і ці фактычныя кіраўнікі „Бел. Раднага“ п. п. Канапацкі і Шыбка хоць раз пыталіся ці паведамлялі Вас аб тым, калі яны выпушчаюць нумар і што ў ім пішуць?

І гэткі „Старшыня“ і „рэдактар“, выстаўляны на людзкі сьмех, і акурат тым, каму ён верай і праўдай служыў.

Вось што значыць, калі Бог пакарае чалавека і адніме ў яго розум.

Быў чалавек Янкаю, а стаў „Петрушкаю“.

## Пастанова

### Сяброў Прэзыдыуму Цэнтральнае Рады Т-ва „Прасьветы“,

Віцэ-старшыні А. Вернікоўскага, Сэкрэтара Т. Сьвірыды і Скарбніка Т. Вернікоўскага, сабраўшыхся ў зьвязку з дзейнасьцю Старшыні „Прасьветы“ А. Якімовіча і Сэкрэтаркі М. Станкевічанкі.

Прыймаючы пад увагу:

1) што сябры Цэнтральнае Рады Т-ва „Прасьветы“ п. п. А. Якімовіч і М. Станкевічанка, сабраўшыяся ў двох, без паразуменьня з іншымі сябрамі Прэзыдыуму самачынна і безпадстаўна завесілі ў дзейнасьці п. Т. Вернікоўскага і агласілі лістам у польскай газ. „Słowo“, што зусім не вымагалася крайняй неабходнасьцю і сьпешнасьцю, а зроблена выключна толькі ў асабістых разрахунках дзеля кампрамітацыі сябры рады Т. Вернікоўскага;

2) што Цэнтр. Рада ў асобах старшыні А. Якімовіча і сэкр. М. Станкевічанкі, як працуючых у цэнтру, выявіла сябе непрацаздольнай;

3) што ў асабістых разрахунках на грашовым грунце з часовым Старшынёй „Бел. Хаткі“ п. Т. Вернікоўскім п. п. М. Станкевічанка і А. Якімовіч прыбеглі да самых няпрыстойных спосабаў, кампрамітуючых нашы арганізацыі і падрываючых іх існаваньне;

4) што праяўляную ініцыятыву сябрам Цэнтр. Рады п. Т. Вернікоўскім аб утварэньні Акружной Рады на Віленшчыну, як адпавядаючую патрэбе сучаснага мамэнту, можна толькі вітаць, што і выявілася тым лікам сяброў Т-ва Прасьветы“, якія зьявіліся на зьезд у Маладэчне 24 траўня г. г.;

5) што ўхваляны на гэтым зьездзе пратэст проці ганебнай дзейнасьці п. п. А. Якімовіча і М. Станкевічанкі адпавядае наагул настроям гурткоў Т-ва „Прасьветы“ з іншых паветаў;

6) што заместа працы ў культурна-асьветным кірунку сябры Цэнтр. Рады п. п. Якімовіч і М. Станкевічанка займаюцца толькі інтрыгамі, вядучымі да поўнага развалу Т-ва „Прасьветы“ з усімі яе гурткамі;

7) што ў сучасны мамэнт адзіным здаровым, жыцьцёвым і працаздольным апаратам зьяўляецца новастворана Акружная Рада Т-ва „Прасьветы“ на Віленшчыну, якой і даручыць склікаць па магчымасьці ў хуткім часе агульны зьезд гурткоў „Прасьветы“, на якім і правясьці рэарганізацыю Цэнтр. Рады і наагул усяго Т-ва „Прасьветы“;

Дык дзеля гэтае стварыўшаеся сытуацыі лічым, што Цэнтр. Рада, як страціўшая свае паўнамоцтвы згодна з § 17 статуту Т-ва „Прасьветы“, а сваімі чынамі і аўтарытэт, а разам з ёй і Наглядная Рада, ні словам і ні чынам ня выявіўшая сябе ў працягу двух гадоў і сваім складам не адпавядаючая сучаснаму мамэнту,— зьяўляюцца аджыўшымі і павінны да новых выбараў злажыць з сябе свае паўнамоцтвы і даць дарогу жывым.

Азначаную пастанову агласіць у газэтах.

*А. Вернікоўскі*, Віцэ-старшыня Цэнтр. Рады „Прасьветы“
*Т. Вернікоўскі*, Скарбнік--Сябра Цэнтр. Рады „Прасьветы“.
*Т. Сьвірыда*, Сэкрэтар—Сябра Цэнтр. Рады „Прасьветы“.

26 траўня 1928 г.
м. Вільня.

## Аб чым пішуць беларускія газэты.

У „Biełaruskaj Krynicy“ у № 33 надрукавана адозва Аб'яднаньня Беларускіх Студэнскіх Арганізацыяў у Празе Чэскай. Зьмест адозвы наступны:

Да Беларускага Грамадзянства! Праца на міжнародным грунце, якая вядзецца беларускім студэнствам, арганізаваным у Аб'яднаньне ў Празе Чэскай, спатыкае шмат рожных перашкодаў, з якіх адна з галоўных — адсутнасьць патрэбных сьродкаў.

У жніўні месяцы сёлятняга году ў Парыжу адбудзецца чарговы X Зьезд Міжнародвае Студэнскае Канфэдэрацыі.

Аб'яднаньне Беларускіх Студэнтскіх Арганізацыяў, як сябра конфэдэрацыі, павінна прыняць чынны ўдзел ў гэтым зьездзе, тым больш, што ў Парыжы, як ведама, існуе вялікі асяродак расейскае эміграцыі, якая ў сваей большасьці вядзе рашучае змаганьне з усялякімі праявамі беларускага самаістнага існаваньня.

Перад гэтым зьездам мусіць быць выдана адпаведная прапагандная літэратура аб Беларусі і беларускім студэнстве.

Перад аблічам студэнства ўсяго сьвета беларускае студэнства павінна з усей яскравасьцю выявіць імкненьне да самастойнага арганізаванага жыцьця, падаўшы належныя ін-

фармацыі аб сапраўдным стане беларускае студэнтскае моладзі, разсейваючы гэтым усе непраўдзівыя і тэндэнцыйныя нападкі нашых ворагаў.

Ня ў першы раз ужо Аб'яднаньне зьвяртаецца да беларускага грамадзянства з заклікам аб дапамозе і гэты заклік ня быў голасам крыку на пушчы. Вось-жа Аб'яднаньне верыць, што і на гэты заклік аб дапамозе, асабліва ў такую адказную хвіліну сустрэне адпаведны послух і поўнае падтрыманьне!

Ахвяры просім перасылаць на адрэс: Ing. C. V. Ławsky pra „ABSA" Praga 11, Wenzigora 4. Čechasławacyja, Urad ABSA.

„Сялянская Ніва" у № 30 з „Соймавага жыцьця" піша:

На паседжаньні 15—V Беларускі Пасольскі Клюб з ініцыятывы пасла К. Юхневіча зложыў у Сойме інтэрпэляцыю да міністра ўнутраных спраў у справе няпраўнай рэквізыцыі памешканьняў для войска, у жыхараў м. Браслаў'я.

На паседжаньні 22—V паміж іншымі пунктамі парадку дня паданы ўрадам на разгляд Сойму праэкт уставы аб амнэстыі для палітычных вязьняў, з прычыны 10 х угодкаў незалежнасьці Польшчы. Праэкт гэтай уставы Сойм адаслаў на разгляд у праўную камісію Акрамя гэтага ўрад падаў аж тры праэкты ўставаў аб падатках, а іменна: 1. Уст. аб павышэньні і выраўнаньні зямельных падаткаў, 2. Уст. аб падатку ад будынкаў і 3. Уст. аб сталым падатку маемасным. На гэту тэму завязалася надта жывая і доўгая дыскусія. Прамаўлялі паслы з усіх сялянскіх клюбаў. З прычыны доўгай дыскусіі паседжаньне адложана да 23-V на гадз. 3 п. п. 23—V першы праэкт Сойм адкінуў большасьцю гал. 191 проці 149, другі — 195 гал. проці 146. Праект трэцяй уставы меўся быць разгледжаны на наступным паседжаньні, але марш. Дашынскі перад закрыцьцём паседжаньня заявіў, што міністар скарбу праэкт уставы аб сталым падатку маемасным забраў з паваротам.

Клюб „Змаганьня" падаў сьнешную прапанову ў справе забойства паліцыяй 2 жыхараў калоніі Завань, Маладэчанскага павету.

## Справа выбарных надужыцьцяў.

На паседжаньні адміністрацыйнай соймавай камісіі 25 траўня разглядалася справа выбарных надужыцьцяў.

Ад Беларусаў у гэтай камісіі выступаў пасол Ярэміч.

Выступалі паслы і ад іншых соймавых клюбаў, якія таксама падалі шмат фактаў аб выбарных надужыцьцях.

У канцы паседжаньня была ўнесена прапанова аб выражэньні недаверра старшыні адмін. камісіі паслу Палякевічу, не дзеля таго, што ён прадстаўнік „адзінкі", а дзеля таго, што „поміж рэгулямін і—проста—ня ўмее весьці паседжаньняў".

„У „Народзе" (№ 11) палова газэты занятая тлумачэньнем пасла Я. Станкевіча аб справе пісьма пасла Ф. Валынца, які, як ведама, парваў сувязь з Я. Станкевічам. Другая палова—пісьмамі быўшых паўлюкевічаўцаў, знайшоўшых сабе часовы прытулак у гэтай газэце.

У справе беларускіх школаў „Народ" урачыста заяўляе, што пасол д-р. Я. Станкевіч, як і іншыя Беларусы, прыдае вялікае значэньне беларускай школьнай працы і пастанавіў зьвярнуць асабіста найвялікшую ўвагу на гэтую п. ацу.

Урачыста, але няма ведама, дзеля чаго побач з „Бел. Таварыствам Школы" Я. Станкевіч „ходаецца" за свой „Гаспадарчы зьвязак", які, як відаць, мае між іншым і тыя самыя функцыі, якія і „Т-ва Школы", Інстытут Гаспадаркі і Культуры і Т-ва „Прасьвета".

Хто шчыра хоча працаваць на дабро свайго Народу, той павінен не разьбіваць свае культурна-асьветныя ўстановы, а лучыць, і чым больш у гэтым кірунку было-бы аб'яднаньня, тым больш было-бы карысьці.

# Здраднік.

Шуміць, гамоніць глуха стары Нёман, цякучы паміж крутымі берагамі, абросшымі адвечнымі поўнымі мраку і вільгаці борамі. Шуміць... Аб даўных часох расказвае языком людзям незразумелым...

Ў Горадне трывога... Войска крыжаносцаў аблягло горад, і вось ужо тыдзень як стаяць... Помач ня прыходзіць; усе запасы вычэрпваюцца... Відма голаду носіцца над крэпасьцяй...

Ў старай царкве на Каложы набажэнства. Сабраліся ўсе, хто мог: старыя, малыя, мужчыны, кабеты... І моляцца жарліва... каб Бог ўсявышні спас Горадню, каб адвеяў хмару грозную...

Цёмна на двары—хоць вока выкалі... Душна... Чорныя хмары нізка плывуць над зямлёй.

Жаўняры на сьценах замку ня спяць. Зорка глядзяць ў пустую цемру. Старыя, пасівеўшыя ў баёх ваякі, па вопыту ведаюць, што вораг якраз гэткія ночы выбірае для прыступаў... А йшчэ такі хітры вораг, як крыжаносцы!... Глядзяць жаўняры і глядзяць...

Стары кашталян нэрвова ходзіць па сваім пакоі... Дымна гарыць каганец і недзе мыш ў куце скрабецца... Чорныя думкі ў душы кашталяна: адкуль дабыць жыўнасьці, як абараніцца?... Маячыць перад вачыма кашталяна абраз перамогі крыжаносцаў... Змучаныя і згаладзелыя жаўняры ўжо ня могуць бараніць замку... Закутыя ў сталь рыцары ўяжджаюць ў яго...

Бачыць кашталян ліючуюся кроў старыкоў і малых дзяцей, гвалты над кабетамі й дзікую оргію пераможцаў... сваё уласнае паніжэньне: камандыр Гэрман наступае на яго, скованага ланцугамі і кінутага на зямлю, нагой і аддае загад яго ўсьмерціць...

Халодны пот быццам раса пакрыў лоб кашталяна; але выхаду ён ня бачыць... Ўся надзея на помачы; — але як даць знаць войску княжскаму?...

„Божа пашлі ратунак!..." стогне кашталян. Прыпасвае меч і выходзіць на двор.

Цёмна... Кашталян абыходзіць сьцены і аглядае... Твары ў людзей змучаныя. Але стаяць бадзёра...

Кашталян глянуў ува ўсходні бок... На ўзвышшы гараць вогнішчы; — і шмат іх, бяз

# Палітычная хроніка.

## ПОЛЬШЧА.

### Польская нота Літве.

У зьвязку з апублікаваньнем літоўскім урадам зьмененай канстытуцыі, у якой Вільня аб'яўляецца сталіцаю Літвы, польскі міністр заграпічных спраў п. Залескі, выслаў Літве 31 траўня ноту, у якой гаворыцца, што польскі ўрад лічыць унясеньне да канстытуцыі літоўскай дзяржавы папраўкі, скіраванай проці тэрытар'яльнай нятыкальнасьці Польшчы за пустую дэманстрацыю, пазбаўляную праўнага значэньня, роўным чынам практычных вынікаў. Гэта можа толькі зашкодзіць перагаворам між Польшчаю і Літвою, маючым на мэце урэгуляваньне ўзаемных адносінаў.

### Польская нота Радавай Расеі.

У адказ на савецкія ноты ў зьвязку з замахам на сябру савецкага пасольства ў Варшаве Лізарава Польскі Ўрад уручыў Савецкаму Ураду ў Маскве ноту, у якой падкрэсьляе дабрасуседзкія адносіны. У ноце гаворыцца, што Польскі Ўрад не талеруе тэрорыстычныя акты расейскіх эмігрантаў проці прадстаўнікоў Радавай Расеі, канстатуючы варожы настрой савецкае прэсы проці Польшчы.

## ЗА ГРАНІЦАЮ.

### Паседжаньне Рады Лігі Народаў.

4-га чэрвеня ў Жэневе адчынілася чарговая 50 сэсыя Рады Лігі Народаў. Ад Польшчы прыбыў мін. Залескі. Сярод пытаньняў знаходзіцца і пытаньне аб Вільні. Міністр Залескі перадаў Радзе тэкст сваей ноты Вальдэмарасу аб новай канстытуцыі Літвы.

### Італьянска-Турэцкі дагавор.

У Рыме падпісаны дагавор між Італіяй і Турцыяй, які складаецца з 3 галоўных пунктаў: 1) абедзьве дзяржавы забавязуюцца ня ўступаць у палітычныя камбінацыі, пагражаючыя аднэй з іх. 2) У выпадку канфлікту кожны з дагаварыўшыхся бакоў забавязаны падтрымліваць нэйтралітэт, у адносінах другого боку. 3) Усе магчымыя непаразуменьні між абодвымі бакамі павінны вырашацца мірным шляхам.

### Замах на Чанг-Тса-Ліна.

Пад цягнік, у якім ехаў дыктатар Манчжурыі Чанг-Тса-Лін з Пэкіну да Мукдэну, была падкінута бомба, выбухам якой разбураны адзін вагон і ранена некалькі асоб з штабу дыктатара. Губэрнатар правінцыі Лінг-Сіянгу памер ад ранаў, а сам Чанг-Тса-Лін і прэм'ер апошняга пэкінскага ўраду раняны.

### Захоп Пэкіна Паўднёваю арміяй.

3 чэрвеня Паўднёвая армія Шэка заняла Пэкін бяз бою. Чанг-Тса-Лін адступае на Мугдэн, нішчачы жалезна-дарожны матэр'ял. Японія пакуль што падтрымлівае нэйтралітэт.

---

ліку... Сум і жах агортвае душу кашталяна... Ён адыходзіць і йдзе ў асьветленую царкву...

Цесьняцца людзі, прапушчаюць гаспадара замку ўперад... Ён падышоў да аўтара і ўпаў на калені...

„Божа, адратуй... хоць гэтых!... няхай я гіну!" вырываюцца ў яго словы болю і гарычы бяз конца...

Пакланіўся ў зямлю і застыў...

Уся царква, як адзін чалавек, кідаецца на калені з плачам: „О Божа!"...

І гэная скарга была поўнаю гэткай сілы, гэткага адчаю, што кашталян аж пахаладнеў... Ён выпрастаўся, павёў вачыма наваколь, — і ў душы яго закіпеў гнеў шалёны.

Недалёка стаяў малады палкоўнік Расьціслаў, удаваўшыйся да дачкі кашталяна. Ён аб'вясьціў аб гэтым кашталяну, але быў прагнаны.. І зьненавідзеў яго кашталян з тае пары, але сам ня мог сказаць, за што—ці за яго нізкае паходжаньне, ці за гордую, поўную годнасьці пастанову і цёмныя, загадкавыя вочы... Толькі адно — кашталян ненавідзеў яго ўсімі сіламі душы, і цяпер, ў царкве, хапіўся нат' за меч... А той сабе стаіць — спакойны, горды, як заўсёды... Гэта яшчэ горш запаліла кашталяна. Ён ўжо забыўся і аб асадзе, аб пагрозным голадзе, аб адчаю людзей... Ен ня мог стаяць і рушыў да дзьвераў. Пайшоў і Расьціслаў... Кашталян бачыў, як ён растаяў ў густой цемры...

Кашталян ў сябе піў прагавіта мёд, быццам хочучы заліць ім адкрытую рану ненавісьці. Але тая ня ўціхала, але яшчэ горш, яшчэ нязносней грызла душу кашталяна...

— Вы, хлопцы, выйдзіце і заляжце ў кустах каля брамы. Як я загукаю савой — спусьціце мост (гэта вы зрабіце васьмёх, вы застанецеся тут). Як я загукаю паўторна і камні ўпадуць на іх — вы з гучным крыкам збоку кінецеся... — гаварыў Расьціслаў жаўнерам. Я зараз пайду... І пайшоў па сьцяне, дзе ня дзе спыняючыся і нешта гаворачы. Пастаяў хвілінку перад царквой, перажагнаўся... Потым шпарка пайшоў да брамы...

Заскрыгатаў мост. Расьціслаў перайшоў на другі бераг рову і зьнік.

— Памятайце! — данёсся ледзь чутна яго голас.

Зноў заваркацелі ланцугі мосту. Жаўнеры

### Лёс гэн. Нобіле.

Нядаўна вылецела на аэрастаце „Італія“ на паўночны полюс італьянская навуковая экспэдыцыя гэн. Нобіле. Некалькі дзён ня было ніякіх вестак аб лёсе „Італіі“. Пачаліся ўсюды падрыхтоўкі да раптоўных экспэдыцыяў. Нарэшце атрыманы праз Расею радыё-дэпэшы з „Італіі“, што аэрастат знаходзіцца на „Зямлі Франца Іосіфа“, у палярнай вобласьці.

# Тутэйшая хроніка.

— **Выязд п. Ваяводы да Варшавы.** Віленскі Ваявода п. Рачкевіч выехаў у службовых справах да Варшавы. Між іншым п. Ваявода падыймае пытаньне аб далейшых асыгнаваньнях для Віленшчыны на адбудову Края.

— **Паседжаньне краёвага аб'яднаньня „едынкі“.** Як мы даведаліся, на 17 чэрвеня ў нядзелю вызначана у Навагрудку паседжаньне краёвага аб'яднаньня сэнатараў і паслоў з „едынкі.“ На гэтым паседжаньні будуць прысутнымі Віленскі Ваявода п. Рачкевіч, Навагрáдзкі Ваявода п. Бечковіч і Куратар Віленскага Школьнага Вокругу. Сэнатар Абрамовіч прачытае рэфэрат па агульна-беларускаму пытаньню, а пасол Акуліч—на тэму беларускага шкальніцтва.

— **Да ведама беларускіх настаўнікаў.** Як мы даведаліся з пэўных крыніцаў, з наступнага 1928—29 вучэбнага году ўва ўсіх беларускіх урадавых школах, як ужо адчыняных, гэтак сама і маючых быць адчынянымі, будуць вызначацца толькі тыя настаўнікі, якія добра ведаюць беларускую мову. Дзеля гэтага ўсе беларускія вучыцялі, маючыя вучыцельскія кваліфікацыі, павінны загадзя парупіцца, каб былі залічаны да ліку кандыдатаў у школьным Куратарыуме.

— **Крыху гісторыі аб Т-ве „Беларускай Хаткі у Вільне“.** Залажыцелямі Т-ва „Беларускай Хаткі“ у свой час былі грамадзяне: Друцкі — Падбярэскі, Канапацкі, Кабычкін і Усевалад Більдзюкевіч.

Першым Старшынёй быў Ф. Аляхновіч, але калі той адмовіўся, ягонае мейсца заняў п. Друцкі Падбярэскі, а пасьля ягонага аб'яднаньня з п. А. Паўлюкевічам, апошні стаўся Старшынёй аж да свайго „упадку“.

З першых крокаў свайго ўрадаваньня Урад Паўлюкевіча на грунце эканамічным пачаў змагацца з бліжэйшымі сябрамі Хаткі і першай ахвярай паў п. Кабычкін—залажыцель, пасьля п. У. Більдзюкевіч — залажыцель і на чарзе была прыгатавана трэцяя ахвяра — п. Канапацкі — залажыцель. Але да гэтага не дайшло і сталася наадварот.

— **Арышт пасла Стагановіча.** У Навагрáдку быў арыштаваны пасол Стагановіч. На паседжаньні Сойму 4-га чэрвеня Маршалак Сойму Дашынскі паведаміў, што ім была атрымана ад пасла Стагановіча дэпеша, у якой ён просіць аб інтэрвэнцыі. Да гэтага п. Маршалак Сойму далучыў, што ён ня можа ўмешвацца ў загады ўладаў дзеля таго, што прапазыкі п. Стагановіча і Грэцкага аб спыненьні пача-

---

адчынілі браму і палова іх вышла, спусьцілася пад адкос і пахавалася ў кустох. Рэшта з трэпятам чакала... Ці будзе што з Расьціславага дамыслу, ці не?... А мо' ён і запраўды здраднік?...

Час паўзе... Нешта чутно... шэляст нейкі... быццам йшло шмат людзей... Бліжэй і бліжэй... Вось ужо відаць,—хоць і цёмна,—пяхоту крыжаносцаў з пікамі. Наўперадзе, здаецца, некалькі чалавек з пёрамі на шоламах едуць на конях... Старшыя крыжаносцаў...

Сэрцы жаўняроў заміраюць... Гукае сава на тым берасе рову...

Спушчаць ці не?

Спушчаць мост. Падыходзіць аддзел і становіцца. Расьціслаў шпарка перабегае да замку...

— Ну зараз!—шэпча ён жаўняром.—Прыгатаўляйцеся! Няхай ідуць!

Ён закашляў голасна.

Рушылі крыжаносцы на мост... Брама адчыняецца шырока і гукае сава...

З громам жудасным ўпалі наложаныя на памосьце над брамай камні, проста на ўяжджаўшых, гнятучы і забіваючы... Стогны разьлягліся...

„Бій, забій!“ раптам грымнула нейдзе з боку.

Закіпела бітва. Лёскат мячоў, крыкі, енкі разьлягаліся ўсюды... Перапалоханым крыжаносцам ворагі траіліся ў вачах і яны, па слабым апоры, ўдарыліся ўцякаць. За імі рынуліся ўсе абаронцы замку. Сам кашталян, хоць яшчэ блізка нічога не разумеў, ляцеў конна на чале пазасталай ў замку рэшты...

„Уцякайце!... Ім помач прыйшла!“ крычаць нялюдзкя пяхуры, упадаючы ў свой абоз.

Паніка запанавала.

Цэлы абоз кінуўся ўцякаць і беглі ўсе, хто толькі мог.

Войскі кашталяна гналіся за імі.

На заўтра адпраўлялася набажэнства ў царкве. Усе дзякавалі Богу за збаўленьне

І як выйшлі, ухапілі Расьціслава і насілі яго з гучнымі крыкамі радасьці: „збавіцель!“

Кашталян абняў Расьціслава.

— Даруй... дарэмна ненавідзеў... вось ты які!... Бяры дачку“...—сарамліва шаптаў ён.

* * *

Палай жа-ж заўсёды вялікая паходня любві і братэрства!...

1. V. 28 г. *Сяргей Белайц.*

тага ўгалоўнага прасьледаваньня ў іх справе былі ухіляны Соймам большасьцю 175 галасоў проці 161 на паседжаньні 24 траўня 1928 г.

**— Аб пасольскім клюбу „Змаганьне“** Пасольскі Клюб нашых радыкалаў „Змаганьне“ пераіменаваўся у „Сянянска—Работнічы Клюб“. Да ліку сябраў гэтага Клюбу далучыўся і пасол Ф. Валынец, які парваў сувязь з паслом Я. Станкевічам,

**— Аб накладаньні кайданаў на палітычна-сьледчых і палітычна-карных вязьняў.** Згодна захадаў і прапазыцыі Беларускага Пасольскага Клюбу Сойм пастанавіў заклікаць Урад выдаць распараджэньне, забараняючае накладаньне кайданаў на палітычна-сьледчых і палітычна-карных вязьняў.

**— Беларускі Дом Культуры.** Настаўнікі Віленскай Беларускай Гімназіі пастанавілі выдаваць 20 процантаў з сваей пэнсыі на карысьць Беларускага Дому Культуры.

**— Канфіскаты беларускіх часопісяў.** 3-га чэрвеня застала сканфіскавана „Зара Працы“ (№ 1), орган беларускіх радыкалаў, за артыкул „Іх асудзілі“.

У суботу 2-га чэрвеня застала сканфіскавана „Беларуская Крыніца“ за артыкул аб асудзе „грамадаўцаў“.

**— Радыё - канцэрт хору славянскай песьні** адбудзецца 28 чэрвеня пад дырыжорствам вядомага кіраўніка Віленскага Архірэйскага хору п. Тодара Мацьвейца. Будуць пяяцца песьні украінскія, беларускія і іншыя, а таксама і царкоўныя.

Такіх радыё-канцэртаў адбудзецца за летні сэзон чатыры.

**— Забастоўка Беластоцкіх фабрык.** У Беластоку выбухла агульная забастоўка тэкстыльнай прамысловасьці, ахапіўшая 40 фабрык. Забастоўка мае выключна эканамічны характар. Работнікі жадаюць павялічэньня запрацаванай платы на 30—40 працэнтаў.

# Карэспандэнцыі.

## Аб забабонах.

(З Пастаўскага пав.).

Каб хто запытаўся ў мяне: „якая характэрная рыса Беларуса і яго вёскі, дык я-бы адказаў: „забабоны“. Як ведама забабонамі называюць фантастычную веру ў розных духаў і наагул у сілы прыроды, якая ёсьць няведама вясковаму сяляніну з навучнага боку. Гэтыя забабоны найлепш сьведчаць, што наш народ шмат яшчэ захаваў розных старых традыцыяў з паганскай эпохі.

У сваей карэспандэнцыі я ня думаю вылічаць тысячныя праявы гэтых забабонаў, як напрыклад вера, што ў Купалаву ночь ведзьмы лётаюць па жыце і скачучы па чыей небудзь ніве, жыта гэтае выломліваюць і закалдоўваюць, што ўжо гаспадар да яго не павінен дакрануцца, а калі гаспадар гэта жыта сажне і абмалоціць, то абавязкова верацъ, што здарыцца вялікае няшчасьце ў яго жыцьці. Або знову вера, што ў Юр'яву ночь устаюць досьвіткам бабы чараўніцы і разьдзеўшыся голымі, мусяць па тры разы абляцець навакол вёскі і пакачаць сваю вопратку на Юр'явай расе, а тады ідуць у чый-небудзь хлеў і сваей вопраткай выціраюць вымя каровы і такім чынам адбіраюць малако ад суседніх кароў.

Гэткіх разважаньняў трымаюцца жыхары нашых вёсак і на кожным кроку сустракаюць што раз новыя і новыя праявы жыцьця гэтай старадаўняй традыцыі і забабон. Пэўныя варожбы разам з гэтымі забабонамі сьцісла зьвязваюцца з акрэсьленай парой году, месяца, а нават і дня. Бязумоўна, ў зьвязку з такімі разважаньнямі народная творчасьць вытварыла шмат цудоўных казак і песьняў, аснутых на тле гэтых забабонных пераканаваньняў. Але аб гэтым напішу другім разам. Сяньняшняя-ж мая мэта — даказаць, што забабонам нельга сьлепа верыць, што людзі праз сьляпую веру, напрыклад у моц якогасьці чараўніка, ня раз бываюць хітрэйшымі добра ашуканы і ў дадатак зусім скампраміттаваны ў вачох іншых сьвятлейшых людзей.

Аднойчы мне паслужыла здарэньне самому пераканацца ў людзкой латвавернасьці. Захаджу я, аднойчы, сьвятам да аднаго селяніна нашай вёскі Н. А., дзе мелі звычай зьбірацца нашыя хлопцы. Было яшчэ досьць рана, так што нікога з вясковых ня было. Сказаўшы „добры дзень“, мы загаварылі аб тым і сім з гаспадаром, а пасьля я ад „бяздзельля“, як у нас кажуць, пачаў страляць вачмі па сьценах гаспадаровай хаты, і нейкім цудам убачыў, што сьцены былі скрэмзаны нейкімі белымі значкамі, пахожымі трошку на літары „ст“. Сколькі я ні стараўся, каб злажыць якоясьці слова з гэтых значкоў, аднак нічога ня выходзіла. Тады запытаў у гаспадара: — Скажыце, дзядзька, што тут напісана? — Вот табе і вучыўся некалькі гадоў, а па пісанаму чытаць яшчэ ня ўмееш — сьмяючыся адказваў мне гаспадар. Ну, няхай сабе і ня ўмею — згаджаўся я з гаспадаром, — але ўсё-ж-ткі вы мне мусіце сказаць, дзеля чаго гэтак сьпісаныя вашы ўсе сьцены?

Па шматразовых просьбах мне гаспадар разсказаў вось што:

„Бачыш, дзяцюк, мы толькі што два гады пабудавалі новую хату, а як табе ведама, што з сьвежага моху, як ён ачарствее, творыцца вельмі шмат жывых істотаў, як клапоў, прусакоў, тарканоў і інш“.

Хаця я гэтай думкі не падзеляў з гаспадаром, што з моху творацца жывыя істоты, але я таксама ведаў, што ў новым будынку

часта плодзяцца клапы і прусакі. Але ня хочачы яго перабіваць слухаў далей.

„Гэта самае здарылася ў нас"—правіў гаспадар": Паўтара гада таму назад, калі разьвяліся ў сьцяне клапы з прусакамі, дык проста адбою нямя. Дзе ні паглядзі, усюды аж кішаць. Чаго мы ні рабілі? І варылі іх варам, і душылі шчэпкамі, і агнём падсмалівалі, і рады ня можам даць. Паглядзі толькі добра, колькі іх убачыш". І гаспадар падняў абраз, які стаяў у кутку пад сталом, з пад якога паказаліся сотні ўстрывожаных прусакоў, якія шпарка забегалі па сьцяне.

А гаспадар правіў далей: „На гэтым тыдні завачаваў у нас нейкі дзед — падарожнік; хваліўся што вельмі людзям добрыя парады даваў і дае, што быццам нават з нейкай сілай знаецца. Вось мы з жонкай і папрасілі парады як пазбавіцца ад гэтай заразы. Вось ён зусім за танна ўзяў і выпісаў іх з хаты і казаў, што за тыдзень пяройдуць да каго я захачу, каб толькі спачатку вынесьці пяць пар і пусьціць у чыюсь хату, а пасьля пяройдуць і рэшта".—Ну, ці-ж вынасіў?— запытаўся я. „А якжа, гэнаму гаду Юрку Канцавому, усадзіў, няхай ведае, як па чужой сенажаці езьдзіць".—

—І дзядзька верыш, што яны пяройдуць?—„Чаму-ж ня верыць, калі чалавек стары выпісаў, ды яшчэ чары знаў". — Але-ж не задарма — запытаў зноў я.—„Толькі-ж чуць ня дарма— адказаў гаспадар—за тое, што выпісаў жонка там сала с пяток фунцікаў адрэзала, а каб да Юркі перайшлі, то ужо я яму пуда паўтара жыта ўсыпаў".-- Ня было за што даваць,—зноў адазваўся я — трэба было самім за якую небудзь залатоўку купіць у аптэцы зельля ад клапоў, дык-бы і самі так выпісалі.—„Альбо-ж ён зельлям выпісываў"—агрызнуўся гаспадар. —А чым?... —„Малітвай з чарамі. Я сходзіў у школу, пазычыў у вучыцялькі кавалачак крэйды, а дзед толькі тут напісаў малітву". Па гэтых словах мне зрабіўся і сьмех і жаль такой сьляпой веры ў забабоны і чары, пры помачы якой хітрэйшыя карыстаюцца нашай цемнатой. — Абманілі вас, дзядзька, — сказаў я і вышаў вон.

Ня знаю, ці паверыў гаспадар у свой абман ці не, але мне было стыдна больш яму аб гэтым успамінаць. З таго часу прайшло ўжо некалькі месяцаў, а бедны селянін усё мучыцца ад клапоў з прусакамі і пэўна можа яшчэ чакае, што яны нарэшце пяройдуць да Канцавога Юркі.

Піш учы гэты праўдзівы выпадак, я думаю, што ён паслужыць прыкладам для забабонных людзей, як небясьпечна быць такім латвавернымі у кожнае глупства.

*Вясковы.*

## Першая ластаўка.

(Ваўкаўшчына).

Даўгі час прыхадзілася нашым кульпурнаасьветным установам прасіць у Міністэрстве Асьветы, каб для нашых вучняў, скончыўшых Беларускую гімназію, прызналі матуры, т. е., каб ім былі адчынены дзьверы нараўні з польскімі матурыстамі ў дзяржаўныя ўнівэрсытэты дзеля далейшай навукі, за якой ім прыхадзілася ехаць за граніцу. Але ня так было лёгка гэта зрабіць дзеля таго, што беларускія вучні найбольш паходзяць з беднага сялянства, а каб выехаць за граніцу патрэбны грошы, якія ў нас рэдка бываюць у запасе.

Але ўсё-ж-такі доўгая і стойкая праца дасягнула сваей мэты, і Міністэрства Асьветы праз Віленскі Куратарыум паведаміла Віленскую Беларускую гімназію, што вучні VIII кл. будуць здаваць экзамены ў сваей роднай беларускай мове нараўні з вучнямі з дзяржаўных гімназіяў, апрача паляністыкі, каторая павінна быць у польскай мове. Дык вот, браты беларусы, гэта першая ластаўка нашае працы прынясла нам радасную вестку, што мы здабылі грунт пад нагамі і зрабілі першы крок да сваей роднай асьветы. Польскі ўрад адчыніў для нашых вучняў дзьверы сваіх культурна-асьветных установаў дзеля далейшай навукі у дзяржаўных унівэрсытэтах і цяпер ім не патрэбна будзе ехаць у чужыя старонкі. Яны будуць мець права сесьці разам з польскімі.

Селяне! Гэта нам доказ нашае працы, што калі мы будзем і далей усе працаваць на ніве культуры і асьветы, то нам ізноў дадуць тое, чаго мы будзем прасіць. Але на гэта патрэбна дужа працы, цярплівасьці і часу.

*Я. Купрыяновіч.*

4. V. 28 г.

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Жыта.

(Дагляд, гнаеньне і зборка).

Жыта назежыць да радзіны траў (gramineal). Найбольш распашыранамі да ўправы ёсьць некалькі сартоў, як: Стырыйская, Данкоўская і Сялянская. Жыта можа расьці па найрожнейшых грунтах, толькі грунты гэтыя трэба адпаведна да пасеву жыта падрыхтаваць. Найлепш жыта родзіць на пясчыстых глінах, або глінястых пясках. Грунты багністыя пад управу жыта не надаюцца, бо на такіх грунтах жыта не пераносіць зімовых марозаў. Жыта лепей можа знасіць грунт зусім сухі, чымся зашмат вільготны. Пры пасеве жыта кожны гаспадар павінен найбольшую ўвагу зьвярнуць на разбаранаваньне сваей нівы, бо для жыта вельмі шкодная зьяўляецца грунт цяжкі, зьбіты і не спульхнены (не разбаранаваны).

Кожны з гаспадароў пэўне ведае, што

перад засевам жыта вельмі карысным для яго будзе той грунт, дзе перш была засеяна сэрадэля або лубін. Пры гэтым сэрадэля болей можа прычыніцца да ўраджайнасьці на грунтах пясчыстых. На грунтах зборных, гэта значыцца складаючыхся з частак гліны, пяску, прухніцы і вапны, жыта добра родзіць па збору расьцін струковых, найлепей па гаросе. Па бульбе на так званых „бульбянішчах" жыта не ўдаецца. Як вядома, бульбянішчы бываюць вельмі спульхнёнымі, так што после яны зьліваюцца і скарубеюць, творачы грунт вельмі цяжкім (скамянелым).

**Гнаеньне.** Каб лепей зразумець, як угнаіваць грунт, трэба разглядзіць хімічную аналізу жыта. Сярэдні ўраджай жыта з гэктара або 2-х маргоў можа даць 1,300 кіляграмаў зерня (81,5 пуда) і 3,000 кіляграм саломы (187,5 пудоў). І вось, калі мы разгледзім хімічны склад гэтых даных, то атрымаем: што ў 81 пудзе жыта будзе знаходзіцца 23 кіл. попелу, 23 кіл. азоту 6 кіл. паташу, 8,75 фосфару, 0,6 вапны, а ў 187 пудах саломы: 115 кіл. попелу, 12 кіл. зоту, 26 кіл, паташу, 17 кіл. фосфару 9,5 кіл. попелу, 35 кіл. азоту, 32 кіл. паташу 25,75 кіл. фосфару і 10,1 вапны.

З гэтай аналізы мы бачым, што жыта шмат якія субстанцыі мусіць чэрпаць з зямлі. Пры гэтым трэба сказаць, што ўжываны звычайна праз гаспадароў гной жывёлы гэтых пажываў даць ня можа. Дзеля гэтага, каб атрымаць добры ўраджай, безварункова патрэбны гнаі штучныя. Пры аналізе мы бачым, што для жыта вялікая ёсьць запатрабаваньне азоту. Найадпавяднейшым гноем да гэтага будзе сялітра. Сялітра латва распушчаецца ў зямлі і дзякуючы таму можа быць спажыванай праз расьціны. Сялітра так званая Чылійская забяспечвае жыта ад вымярзаньня ў часе сільных зімовых марозаў, калі яна сеецца восеньню па руні. Таксама можа добра напраўляць жыта пашкоджанае праз зімовыя марозы, калі яна будзе рассеяна на пашкоджаныя месты раньняй вясной.

Аднак-жа адна сялітра ня можа задаволіць жыта, калі ня будзе ў зямлі іншых патрэбных да пажыву субстанцыяў, як квасу фасфорнага, паташу і вапны. Вось яскравы прыклад, які параўноўвае гнаеньне штучнае з гнаеньнем звычайным, гэта значыць толькі з гноем хлеўным.

Поле было разделяна на тры часткі. На першую частку навожаны быў гной хлеўны, на другую апроч гною хлеўнага было дадана 200 кілёгр. фасфору і 600 кілёгр. кайніту, а на трэцьцюю апроч гэтага ўсяго было яшчэ дадана 200 кілёгр. сялітры Чылійскай.

Цяпер параўняем вынікі ўраджаю: з першай часткі было сабрана 96 пудоў жыта і 156 саломы; з другой 120 пудоў жыта і 160 п. саломы, а з трэцяй 200 пудоў жыта і 300 пуд. саломы. З гэтага мы бачым, як вялікую ролю гуляе ў жыцьці жытніх расьцін азот, якім зьяўляецца сялітра Чылійская. Дзеля гэтага кожны гаспадар павінен ім умець даражыць. Азначаную меру азоту на нейкую частку поля кожны гаспадар не павінен рассяваць аднаразова, бо можа трапіць пад дождж і змарнаваць так дарагі для жытніх расьцін пажыўазот. Рассяваць яго найлепей наступным спосабам: першую частку ў ліку $^1/_3$ усей назначанай порцыі засеяць разам з жытам, або па руні восяньню. Палову застаўшага — вясной, а пазасталую частку — перад выплываньнем коласу.

Каб атрымаць сярэдні ўраджай з аднэй дзесяціны, то трэба абавязкава па гнаі хлеўным пасеяць ад 10 да 12 пудоў сялітры Чылійскай, каля 10 пудоў фасфору і 18-20 пудоў солі паташовай. Пры гэтым трэба зьвярнуць увагу на грунт. Калі грунт ёсьць гліністы або багністы, то трэба яшчэ на дзесяціну такога грунту дадаць каля 30 пудоў негашанай вапны. Гнойжа хлеўны ня будзе памоцным, калі вывезьці яго і пасеяць жыта, бо трэба абавязкава, каб ён перад пасевам перапрэў на ніве.

**Сяўба.** У халаднейшым клімаце, далей на поўнач, або на гарах жыта патрэбна сеяць у канцы жніўня, а ў цяплейшым у верасьні. На сяўбу адбіраюцца самыя цяжкія і лепшыя зярняты. Ніколі ня можна сьвежага жыта, вызначанага на насеньне, трымаць даўжэйшы час у мяшкох, бо яно латва можа перагарэць і траціць сваю ўсходнасьць. Заўсёды насеньне-жыта павінна быць рассыпана на невялічкія кучкі, якія часта гаспадар павінен шуфляваць, каб яно не згаралася. Кожны гаспадар мусіць час ад часу зьменяваць гатунак свайго насеньня, бо лепшыя гатункі жыта хутка выраджаюцца. Кожны, хто зьмяняе насеньне, павінен для сябе набываць жыта з халаднейшага і сырэйшага клімату, бо такое толькі можа перанасіць латва зімовыя марозы і паволі пасьпеваць, не пагражаючы гаспадару стратай праз высыпаньне.

**Жніва і зборка.** Найадпавяднейшым часам да жніва будзе той, калі салома і зярняты робяцца жоўтымі. З гэткага жыта выходзіць найлепшая мука і найсмачнейшы хлеб. Толькі жыта вызначанае на насеньне павінна жацца, калі салома і зярняты пабялеюць. Ня можна мокрага жыта вязаць у снапы датуль, пакуль знаходзячыся ў саломе розныя травы ня высахнуць, бо інакай салома перагарае і меняй карыснай робіцца для пажыву жывёле. Высахшая на полі жыта звычайна сяляне прывозяць да такоў (гумнішчаў) і складаюць у торпы (скірды). Шмат бывае такіх выпадкаў, што жыта ў торпах таксама перагарае; каб не дапусьціць да гэтага, кожны гаспадар павінен рупіцца, каб у таку заўсёды быў доступ сьвежаму паветру. Дзеля гэтага павінен часта адчыняць дзьверы і праветрываць будыніну.

У. В.

## Авёс як корм для цялят.

Як ведама слабы корм цялят у пачатку шкадліва адбіваецца на пазьнейшым іх разь-

віцьці. З слаба выкармленага цяляці ня будзе добрай дойнай каровы, добрага бугая—плодніка ці наагул добрай расы. Занядбанае цялё ня можна пазьней направіць на‘т найлепшым кормам ці даглядам, і заместа добрага прыплоду будзем мець толькі такі статак, што малако і мяса не аплаціць пашы і дагляду за ім. Пры занядбалым і неадпаведным даглядзе цяляці нават добрай расы не атрымаем добрага прыплоду.

Між рожнымі гатункамі корму, якія падаецца для корму цялят, побач з льняным насеньнем лічыцца добрым і авёс. Ужо ў час адлучэньня цяляці ад маткі і пераходу ад чыстага малака на зьбіранае можна прыдаваць адпаведна прыгатаванага аўса. Авёс сваімі складнымі часткамі, як бялок і іншыя, спрыяе на рост касьцей і зьяўляецца падставаю далейшага разьвіцьця. Звычайна каля 4-х тыдняў цяля корміцца чыстым матчыным малаком, а затым пераходзіць на зьбіранае малако. Зьбіранае малако мае ўсе складныя часткі апрача тлушчу. Нехапаючы тлушч прыдаецца льняным семям, якога вывар пасьля перамолу прыдаецца да малака. На 1 літр малака прыдаецца льнянага вывару каля 50-60 грамаў.

Аднак дзеля таго, што ня ўсюды ёсьць льняное семя, дык яго можна замяніць аўсом. Толькі ня можна адразу шмат даваць аўса, а колькасьць павялічваць паволі. Колькасьць аўсу павінна быпь крыху большая, чым льняного семяні, бо авёс ня мае столькі тлушчу, але затое мае шмат інных складніковых частак, якія карысна ўплываюць на ўзрост. Калі пераходзяць на поснае малако, тады да яго дабаўляюць вывар з аўсянай мукі і ім поіцца цяля. Калі цяля адвыкне ад матчынага малака і прывыкне да поснага малака, што даецца да 6 тыдняў, можна перастаць прыдаваць вывар семяні ці аўса да малака і даваць молатага аўсу ці льнянога семяні. Ад 8 да 10-га тыдня можна даваць ад ½ да ¼ кіляграма, а на‘т і больш молатага аўса на адну галаву, у той час як семяні ня можна даваць больш, як ½ кілягр. на галаву.

Льняное семя можна замяніць пазьней макухаю, якая падаецца крышанаю сухою бяз усякай прымешкі. Авёс абавязкова трэба даваць малоты, бо цэлы цяля ня можа пераживаць. Затым трэба прывучаць цяля да добрага сена, бо ў ім ёсьць усё тое, што патрэбна для вытварэньня моцных косьцяў і мускулаў. Сена можна даваць ужо на 4 тыдзень, каб паволі прывыкалі, а затым можна даваць у меру патрэбы. Малая колькасьць буракоў, а затым зялёная паша дапаўняюць авёс і сена. На 6 месяцы можна спыніць выдачу аўса, за выняткам тых цялят, якія вызначаны для расплоду, бо для іх вельмі патрэбен авёс. Добры і сытны корм у далейшым разьвіцьці зьяўляецца лепшаю гарантыяй моцнай і здаровай жывёлы, якая дасьць добры зыск.

## Баранаваньне яравых пасеваў.

У нас звычайна барануюць вясною толькі азімую пшаніцу і амаль зусім не стасуецца баранаваньне ўсходаў аўса і ячменя. А між тым баранаваньне гэтых збожжаў дае добрыя вынікі і павінна часьцей стасавацца, асабліва па глебах цяжкіх і заліўных.

Баранаваньне мае шмат дадатніх бакоў. Найперш гэта ёсьць адзін з способаў барацьбы з рожнымі травамі, як сьвірэпа, асот, лапух і інш. Затым баранаваньне разьмягчае ролю, аблягчае доступ паветра да карэньняў расьлін. У сухую пагоду не пазваляе скарлупець глебе і памагае утрыманьню вільгаці. Пасьля вялікага дожджу па якім глеба скарлупее, а затым цьвярдзее і трэскаецца, баранаваньне нішчыць скарлупу і памагае глебе быць спраўнай.

Зьяўляецца толькі небясьпека вырываньня маладых расьлінак, а гэтым самым і парадзеньня пасеваў. Але гэтай небясьпекі можна ўнікнуць, калі баранаваць у часе разросту ўсходаў, калі расьлінкі моцна сядзяць у зямле і калі для баранаваньня будзе ужыта барана лёгкая з кароткімі і вострымі зубамі. Найлепшымі будуць бароны гэтак званыя шматпольныя, напрыклад 6-ці—3-польныя. Баранаваць найлепей ў сухую пагоду, калі расьлінкі крыху завяўшыя, значыць пры сонцы, а ня рана на расе.

Вынікі баранаваньня хутка можна заўважыць на цёмнай зеляні, як гэта бывае пасьля салітры. Трэба мець на ўвазе тое, што сьвірэпа ў пачатку ўкараняецца слаба і калі ў гэты час пабаранаваць авёс ці ячмень, дык слаба разросшая сьвірэпка будзе вырвана з зямлі.

Калі-ж да ярыны падсеяна канюшына, дык трэба адмовіцца ад баранаваньня, ці пасеяць канюшыну пазьней у часе баранаваньня растушчага ячмяню ці аўса. Як досьлед паказвае, пазьнейшы пасеў канюшыны пры баранаваньні ярыны ад‘емна ня ўплывае на ўраджай канюшыны. Можна нават гэты способ прапанаваць, як больш практычны, бо пазваляе сеяць канюшыну ў больш вольны час, а затым дае магчымасьць няглыбокага і добрага прыкрыцьця засеянай канюшыны. Пры ячмяню пасеяная канюшына не разрастаецца моцна і аблягчае ўборку ячменя.

## Як уратаваць капусту ад гусеніц?

Найбольшым няшчасьцем для гаспадара-агародніка, пасеяўшага капусту, зьяўляецца гусеніца белага матылька-капусьніка ці нават іншых матылёў.

Гусяніцы ў вялікім ліку зьяўляюцца на лісьцях капусты ў другой палове лета і калі проці іх не прыняць ніякіх сьродкаў, дык яны зьядуць усю зеляніну капусты, заставіўшы толькі жылкі. Вось дзеля чаго трэба шукаць сьродкаў барацьбы проці гусеніцаў і іншых падобных ім шкоднікаў.

Можна запрапанаваць два практычныя способы. Першы — гэта пасеяць між загонамі капусты канапель. Заўважана, што калі блізка капусты растуць канаплі, то там рэдка паказваюцца матылі і іх гусяніцы не прычыняюць ніякай шкоды. Аказваецца, што пах канапель

ня зносяць матылі. Дзеля гэтага можна засеяць рэдка між рассадаю капусты ці па краях грады з капустаю канаплю і гэтым забясьпечыць капусту проці гусяніц.

Другі спосаб з бясьпячэньня капусты ад гусяніц—гэта закладаньне „пастак“. Гэткімі „пасткамі“ зьяўляюцца ў нас лісьця кветкаў настурцыі. Гусяніцы вельмі любяць лісьця настурцыі. Дзеля гэтага, калі ў загонах пасеяць настурцыі, якія вельмі шмат даюць зеляніны, дык гусяніцы могуць з капусты перайці на лісьця настурцыі.

Можна яшчэ нішчыць яечкі, з якіх потым выходзяць гусяніцы. Дзеля гэтага трэба паказаць толькі дзецям, як выглядаюць гусянічныя яечкі, паложаныя матылямі на ніжнім баку лісьцяў настурцыі, каб яны сарвалі гэтыя лісьця і зьнішчылі: спаліць, затапіць у вадзе ці проста раздушыць разам з яечкамі.

Калі яечкі на некатарых лісьцях ня будуць заўважаны, дык з іх хутка выйдуць гусяніцы, спачатку цэлымі кучамі. У гэтую пару іх латвей заўважыць і зьнішчыць. Калі пад загонамі капусты пакажацца штат белых матылёў, тады трэба зьвярнуць увагу на лісьця настурцыі і капусты і прыступіць да зьнішчэньня паложаных на іх яечак ці гусяніц. Лісьця настурцыі вельмі сочныя і шкоднікі больш любяць іх чым капусту. Настурцыі трэба сеяць пасьля 10 мая, бо яны вельмі чулыя да спозьненых замаразкаў.

# Усячына.

## Зіма ў чэрвені.

Астранамічныя абсэрваторыі паведамляюць, што гэткага холаду, які быў 2 чэрвеня ў рожных мейсцах Польшчы, не натавана ў працягу 102 гадоў. У Кракаве, напрыклад, тэмпэратура дахадзіла да 0,9° С, а на Усходніх ваяводзтвах яшчэ ніжэй. У мінуўшчыне толькі 8 чэрвеня 1913 г. у гэтых мейсцах была аднатавана тэмпэратура 1,3° С. Нізкія тэмпэратуры былі аднатаваны: у 1837 і 1869 г.—4° С, 1844—3° С, 1863 г.—2,6° і ў 1923 г.—2,9° С.

З усей Заходняе Эўропы надходзяць весткі аб нязвыклым холадзе. Гэты холад ідпе з Усходряй Эўропы, знаходзячайся цяпер пад уплывам халоднага ветру, які ідзе праз Лапландыю з Ледавітага акіяну. Гэткая пагода пратрымаецца яшчэ некалькі дзён.

## Наўкола фосгэну.

Выбух газу фосгэну ў Гамбургу да гэтай пары служыць тэмаю ўсялякіх меркаваньняў. Пры гэтым зварачваецца ўвага на два факты: 1) калі толькі ў будучай вайне будзе дапушчана ўжываньне ўсіх навейшых вынаходак навукі і веды, як атрутныя газы і іншае, дык гэта можа прывясьці да поўнага зьнішчэньня ўсяго жывучага на тэрэне ваюючых дзяржаваў. Даволі для прыкладу сказаць, што 1,350 кіляграмаў фосгэну даволі для таго, каб у працягу 10 мінут атруціць 30 мільённае насельніцтва Польшчы.

Паводле справаздачы нямецкіх газэтаў у адным толькі Гамбурскім порце ёсьць каля 70,000 кіляграмаў фосгэну, а ў ва ўсей Нямеччыне ў год выабляецца 1,500 тонаў гэтага страшнага сьродка будучай вайны. Уласнік гамбурскай фабрыкі фосгэну Стольцэнбэрг заснаваў тры фабрыкі фосгэну ў Радавай Расеі ў Самарскай губ. Як ведама, бальшавікі ўсе высілкі свае скіравалі на забяспячэньне чырвонае арміі аэрапланамі і атрутнымі газамі.

# Навука і тэхніка.

## Ракетавыя машыны.

У апошні час шмат гаворыцца і пішыцца аб фантастычнай падрыхтоўцы да палёту на Месяц. Але ў шмат каго можа ўзьнікае пытаньне, чаму ласьне гэтая думка можа быць здзейсьнена цяпер пры помачы ракетнае машыны, а ня можна было гэтага спробаваць на аэрастатах ці аэрапланах? Якая рожніца між ракетным апаратам і бэнзінавымі?

Як ведама зямная куля пакрыта слоям паветра ці атмасфэры, якая чым дальш ад зямлі, тым радзей. На вышыне 10 — 11 вёрст атмасфэра гэтак рэдкая, што чалавек з цяжарам вытрымоўвае яе. Нарэшце большых вышынь да гэтае пары ня ўдалося дасягнуць яшчэ па іншай прычыне. Аэрапляны лётаюць у паветры дзякуючы таму, што прапэлеры ўразаюцца ў густое паветра, як параходныя вінты ў ваду і гэткім чынам пасутпаюць уперад. Адсюль зразумела, што прапэлеры могуць працаваць толькі на высаце 12—13 кілямэтраў, пакуль ёсьць густое паветра. А вышэй перастаюць працаваць. Вось дзеля чаго ўхапіліся за вынайдзеную немцам Опэлем, уласьнікам аўтамабільнай фабрыкі ў Касэле (Нямеччыне), ракетавую машыну.

Ракетавая машына рожніцца ад звычайных бэнзінавых аўтамабіляў ці аэраплянаў тым, што яна прыводзіцца ў рух ракетавым сільнікам і для палёту ў паветры не патрабуе прапэлера. Яна страляецца, як з рэвальвэру і заснавана на аддачы мэханічных частак пры выбуху ракет, як гэта зроблена ў аўтаматычных кулямётах ці гарматах. Ракетавы сільнік ужо меў раз прыстасаваньне ў мінуўшай вайне. Пры помачы яго немцы абстрэлівалі Парыж на прасторы 90 кілямэтраў. Снарад, які выпушчаўся з спэцыяльнай гарматы, меў у сабе яшчэ ракетны мэханізм, які і штурхаў яго ўперад. Гэтая тайніца ўяўнілася толькі нядаўна.

Будучыня ракетавых машын перавышае ўсякія выбражэньні. Яна зробіць поўны пера-

варот у тэхніцы, як у свой час пар, а затым электрычнасьць. Апрача таго, што дзякуючы ей адчыняецца магчымасьць досьледаў недасягаемых да гэтае пары паветраных вышынь ці на‘т фантастычных палётаў у міжплянэтныя пространі, пры помачы ракетных апаратаў значна латвей здзейсьніць камунікацыю між рожнымі часткамі сьвета над акіянамі.

Паветраная камунікацыя між Эўропаю і Амэрыкаю натыкаецца на вялікія небясьпекі дзеля таго, што над акіянам часта бываюць паветраныя буры, якіх ня могуць перамагчы звычайныя аэрапляны ці аэрастаты. Але калі падняцца на 10—12 вёрст над роўнем акіяну, дзе амаль безпаветраная пространь, дык там заўсёды ціха. У гэтых пространях могуць лётаць ці „страляць“ толькі ракетавыя машыны. Пакуль хуткасьць гэтых машын ня перавышае аўтамабільных ці аэраплянавых. Але спадзяюцца давясьці яе да 1.000 кілямэтраў у гадзіну і больш. Гэткім чынам з часам магчыма будзе зрабіць пералёт з Эўропы да Амэрыкі хутчэй, чым з Варшавы да Бэрліна. Толькі невядома, ці вытрымае чалавечы арганізм гэткую хуткасьць.

Затым ракетавыя машыны будуць мець вялікае ўжываньне для ваенных мэтаў. У мінуўшую вайну толькі адна машына з ракетным снарадам, выстраляным ня больш 100 разоў, навяла паніку на ўсю Францыю. А цяпер можна сабе ўпрытомніць, калі непрыяцель пачне выпушчаць гэткія машыны, без людзей, нагружаныя атрутнымі газамі ці выбуховымі сьродкамі ў тыл свайго ворага? З спэцыяльнымі гадзіннікавымі мэханізмамі гэткімі машынамі можна будзе абстрэліваць з Нямеччыны Варшаву, Лёндан ці Парыж за тысячы кілямэтраў.

Вось дзеля чаго гэткае вялікае агульнае зацікаўленьне выклікала ракетавая машына, над якой цяпер робяцца досьледы ў Нямеччыне.

## Паштовая скрынка.

**Н У—віч.** Ліст Ваш атрымалі, скарыстаем у наступным нумары.

**В. Моклы** Гэзэтаў лішніх некалькі экзэмпляраў вышлем. Бібліятэчку пастараемся асьвяжыць.

**Ан—вічу:** Вершы вашыя адносна паўлюкевічаўскіх банкрутаў вось тут-жа і друкуем.

**К. Гр—лю** Ліст Ваш атрымалі — будзьце пэўныя, што дапаможам.

**М. Ма—ко** Паўлюкевічаўскіх даўгоў ня плацім, можаце зьвярнуцца да яго асабіста.

**П. А—ч.** Ліст атрымалі. Паўлюкевічаўскіх даўгоў нэ плацім

**Я. К—ч.** Патрэбнае пасьведчаньне зробім.

**С—ка. Р—к. Т—ч.** —Паўлюкевічаўскіх даўгоў не аплачваем

**Мар‘і Станкэвічанцы** — аб старым даўгу зьвярніціся да, Паўлюкевіча. Пэнсію ад 1 лютага да 1 чэрвеня — ад Ураду Хаткі не атрымаеце бо ён вас не наймаў і з таго часу, як Вы праваліліся на выбарах да Сойму—ні разу вас і ня бачыў

**14-ці сябром Хаткі** — Калі вы сапраўды падпісалі тое што напісана у „Dzieńniku Wileńskim,“ дык просіма а выяўленьні сваіх прозьвішч, бо інакш будзе выглядаць правакацыей тых, хто на вашых імёнах клапаціцца аб асабістых інтэрэсах.

**Р—чу.** Радзім Вам зьвярнуцца да М Станкевічанкі, яна у захваце аб Паўлюкевічу.

**Князю.** Папераджаем, што калі ня спыніце сваіх заплечных інтрыг дык мы будзем змушаны выступіць адкрыта.

### Нашым „прыяцелям“

Аб чым гудзеце вы „банкроты,“
Што непакоіць стала вас?
Ці не аб „дзядзькіны банк-ноты“
Ужо ідзе цяпер у вас?
Эт! Кіньце лепей справы гэты,
Як кінуў вас тады Народ,
Калі ў пагоні па дыеты
На Сойм пайшлі вы у паход!
Як і тады — цяпер ня новы
Жаданьні тайных вашых сноў.
Дык кіньце гэтыя вы спробы,
Каб-бы ня быў канфуз ізноў.



## АБВЕСТКА.

### Навагрдзкая Беларуская Гімназія,

**Прыродаматэмачнага тыпу, з чатырмя першымі праўнымі клясамі,**

### ЗАВЕДАМЛЯЕ АБ НАСТУПНЫМ:

I. Бацькі, якія хочуць аддаць у Гімназію ў 1928/29 годзе сваіх дзяцей, складаюць просьбы аб прыняцьці, далучаючы да іх: 1) мэтрыку нараджэньня, 2) пасьведчаньне аб здароўі, выдадзенае праз школьнага доктара на падставе агляду, 3) пасьведчаньне аб паўторным прышчэпе воспы і 4) апошняе школьнае пасьведчаньне аб навуцы.

II. Астатні тэрмін складаньня просьбаў 25 чэрвеня 1928 г.

ЗАЯВЫ, ўнесяныя пасьля гэтага тэрміну, разглядацца ня будуць.

III. Дырэкцыя мае права дапусьціць да ўступнога экзамену, толькі тых кандыдатаў, якія не перарасьлі на 1 чэрвеня г. г. прадбачаных правам гадоў: да I кл. — 12, II — 13, III—14, IV—16, V—17, VI—18, VII—19 гадоў.

Кандыдатам, перарослым гэтыя гады, патрэбны дазвол Віленскай Куратарыі.

IV. Згодна з новымі правіламі, прыймо ў Гімназію адбываецца нармальна вясною, у восень-жа экзамены могуць быць толькі з дазволу Куратарыума.

Просьбы аб дапушчэньні да экзаменаў васеньніх падаюцца на імя Віленскай Куратарыі праз Дырэкцыю Гімназіі не пазьней 10 жніўня 1928 году.

V. Уступныя экзамены ў I-шую кл. адбудуцца 27 чэрв. ў 8 гадзіне і 28 чэрв. у 10 гадз., у клясы ад II да VII—25, 26, 27 і 28 чэрвеня гэтага года.

VI. Кандыдаты да VIII кл. просьбы аб прыйме павінны падаць на імя Дырэкцыі Гімназіі не пазьней 15 чэрвеня.

VII. Пры Гімназіі маюцца БУРСЫ для вучняў і вучаніц.

**Дырэкцыя Гімназіі.**



Рэдактар-Выдавец Т. ВЕРНІКОЎСКІ. Бел. друкарня ім. Фр. Скарыны—Вільня, Людвісарская 1.